


# Рэгіянальная газета. Rh.by

25 год мы з вамі!

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

24 красавіка 2020 года №17 (1304)

18+






















## У маладзечанкі знайшлі каранавірус

старонка 5

## Гаспадары аграсядзібаў Валожыншчыны гатуюць гарачыя абеды для медыкаў інфекцыйнай бальніцы

старонка 2

## Маладзечанец прыгадвае, як у маі 1986 тушыў тарфянікі ў чарнобыльскай зоне

старонка 8

# «Рэгіянальнай газеце» — 25 год!

Пра тых, хто стварае «Рэгіянальную газету», чытайце на старонках 12-13.

А пра герояў публікацый – на старонцы 21.

ISSN 1991–7155




Адсканіруйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/



# Гаспадары аграсядзіб Валожынскага раёна гатуюць гарачыя абеды для медыкаў інфекцыйнай бальніцы

**У Валожыне адвялі для інфекцыёнкі будынак радзільні. Гаспадары аграсядзіб Валожыншчыны прапанавалі дапамогу медыкам у выглядзе штодзённых гарачых абедаў.**

«РГ» распавядае, чаму людзі вырашылі дапамагчы дактарам і як гэта дапамога выглядае.

### Галоўны доктар падтрымаў ініцыятыву

У будынку валожынскай радзільні з'явілася новае інфекцыйнае аддзяленне. Радзільню перапрафілявалі ў інфекцыёнку на пачатку красавіка. Для лячэння пацыентаў з падазрэннем на COVID-19 і з ужо пацверджаным дыягназам адвялі 80 ложка-месцаў.

Пасля адкрыцця гаспадары аграсядзіб Валожынскага раёна вырашылі дапамагчы бальніцы. Ініцыятыва належыць аднаму з гаспадароў **Анатолю Ганцу**. Уладальнікі аграсядзіб сустрэліся з галоўным доктарам **Паўлам Ганчаром**. Пры сустрэчы ён паведаміў, што бальніца на той момант была забяспечаная маскамі, рэспіратарамі, каб дактары маглі працаваць у «бруднай зоне». У «бруднай зоне» ляжаць пацыенты з каранавіруснай інфекцыяй.

Дактарам прапанавалі дапамагчы гарачымі абедамі. Галоўны доктар падтрымаў грамадскую ініцыятыву. Развозіць абеды пачалі на мінулым тыдні.

Фота hutor.by.

Гаспадары аграсядзіб кажуць, што цяпер самы час, каб аб'ядноўвацца і дапамагаць.

### Дапамагаюць з Валожыншчыны, Маладзечна і Мінска

Адзін з гаспадароў, з якім гутарыла «РГ», распавёў, што людзі самі прыходзілі і прыносілі мяса, садавіну, гародніну і іншае.

– Людзі прывозілі лімоны, сыры самаробныя, пяць літраў мёду. Гэта ўсё для медыкаў. Для здаровых людзей мы робім здаровую ежу, такую, як мы рабілі для турыстаў, якія прыязджаюць да нас адпачываць, – падзяліўся гаспадар адной з аграсядзіб.

Ініцыятары дапамогі медыкам распавядаюць, што кінулі кліч сярод усіх людзей праз інтэрнэт. Адгукнуліся не толькі валожынскія, але і маладзечанскія, і мінскія людзі.

– Хочуць дапамагаць таксама і з-за мяжы, але трэба яшчэ прадумаць, як гэта зрабіць. Усе межы закрытыя, таму з гэтым узнікаюць складанасці, – падзяліўся адзін з удзельнікаў дапамогі.

### Як гатуюць і прывозяць абеды

Як мяркуюць гаспадары аграсядзіб, повары ў бальніцах не скокнуць вышэй за сваю галаву і не змогуць прыгатаваць дамашнюю ежу:

– Адна справа – гэта харчаванне для хворага, іншая – харчаванне для здаровага чалавека. Калі ты доктар, то ў звычайным рэжыме ты спіш і снедаеш дома, прыходзіш на працу з ссабойкай. А ў нас незвычайны рэжым.

З самага пачатку гаспадары аграсядзіб дамовіліся, што будуць у меру сваіх магчымасцяў рабіць для медыкаў абеды. Нехта закрывае адзін дзень, а нехта гатуе ежу тры дні. Адзін з удзельнікаў ініцыятывы распавёў, што ў першы дзень людзі прывезлі столькі гародніны, што хапіла на 60 порцый салату. Ежу гатуюць сем'ямі, некаторыя прынялі да сябе кваліфікаваных повараў.

З кухонным блокам бальніцы прадумалі лагістыку. Бакі прывозяць з ежай, іх перадаюць на ўваходзе ў інфекцыйнае аддзяленне. Пасля ўсё здаецца на кухню бальніцы, мыецца і дэзінфіцыруецца. Потым гэтыя бакі забіраюць. Калі хтосьці з гаспадароў сам не можа прывезці ежу, то дактары накіроўваюць машыну і забіраюць абеды.

### Меню абедаў для медыкаў:

- суп з фрыкадэлькамі, свініна з тоўчанай бульбай, салат, морс са сваёй садавіной;
- капусняк, гуляш з грэчкай і салат;
- боршч, камбала і рысавая каша, з-пад Цюрлёў фермерская гаспадарка перадала сокі.

Гаспадары аграсядзіб распавялі «РГ», што ў інфекцыйную бальніцу перадалі і шмат бытавых рэчаў.

– Гэта пытанне пра здаровых людзей, якія павінны заставацца здаровымі. Іх рацыён павінны быць узмоцнены. Яны працуюць у «бруднай зоне» па тры гадзіны пад святлом лямпаў, вялікая страта вадкасці. Гэта добры шанец для таго, каб стаць грамадствам. Не трэба кагосьці вінаваціць, а сабрацца і рабіць нешта разам.



**Настасся УТКІНА**
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06



Баршчэўнік.

Фота cont.ws.

# На барацьбу з баршчэўнікам выдзелілі 30 тысяч рублёў

ВІЛЕЙКА

**На барацьбу з баршчэўнікам Вілейскаму раёну з абласнога бюджэту выдзелілі 30 тысяч рублёў.**

Столькі ж раён атрымаў і летась. Суму цалкам выкарысталі, аднак баршчэўнік да канца не перамаглі. Па статыстыцы, на 1 студзеня 2019 года плошча вырастання гэтай расліны складала 10,5 гектара, на пачатак бягучага года – столькі ж.

Як удакладнілі спецыялісты Вілейскай раённай інспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, выкараніць баршчэўнік складана, бо расліна вельмі пладавітая.

Гаворка ідзе пра тое, каб кантраляваць плошчы вырастання, не дапускаць іх павелічэння. На гэта і нацэлены хімічнае пратручванне, якое памяншае шчыльнасць вырастання раслін і абнасеньванне тэрыторыі, паведамляюць у Вілейскім райвыканкаме.

Баршчэўнік – род кветкавых раслін сямейства парасонавых. Двух- або шматгадовыя травяністыя расліны з тоўстым сцяблом вышынёй да пяці-шасці метраў. У Беларусі ёсць некалькі відаў. Найбольш вядомы баршчэўнік Сасноўскага. Спачатку выкарыстоўваўся як сіласная культура. Але паступова перасяліўся ў дзікую прыроду на берагі вадаёмаў, пусткі, недагледжаныя палі. Сок большасці відаў, асабліва баршчэўніку Сасноўскага, выклікае моцныя апёкі. Яны балючыя, цяжка загойваюцца. Апёк атрымліваецца з-за рэчываў – фуранакумарынаў, якія ўтрымлівае расліна. Гэтыя рэчывы рэзка павышаюць адчувальнасць арганізма да ўльтрафіялету. Таму наймацнейшыя апёкі атрымоўваюцца ў сонечныя дні. Калі сок баршчэўніку трапляе ў вочы, чалавек можа стаць невідушчым. Пры гэтым першы дотык да расліны не дае ніякіх непрыемных адчуванняў. У гэтым і небяспека.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Ужо вядома, дзе можна будзе купацца

ВІЛЕЙКА

Як распавялі ў Вілейскай выратавальнай станцыі, пералік гэтых месцаў, хутчэй за ўсё, застанецца ранейшым.

Вось гэты спіс:
- пляж «Сонечны» на Віліі;
- сажалка ў вёсцы Асіпавічы;
- гарадскі пляж на Вілейскім вадасховішчы;
- Віллянін хутар;
- Ніжні Парк;
- гарадскі парк;
- урочышча Дубаўка.

Як расказаў начальнік Вілейскай выратавальнай станцыі **Ягор Роўда**, 21 красавіка пляжы прыбралі. Цяпер яны гатовыя да сезона адпачынкаў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У Вілейскім доследным лягасе – новы дырэктар

ВІЛЕЙКА



Фота lesgazeta.by.

Пра гэта карэспандэнту паведаміла намеснік дырэктара Вілейскага доследнага лягаса **Таццяна Анішчык**.

Новы кіраўнік Вілейскага доследнага лягаса **Дзмітры Грышкевіч** нарадзіўся ў 1980 годзе на Віцебшчыне. Скончыў БДТУ, Акадэмію кіравання пры Прэзідэнце. Пачынаў у лягасе ў Бягомлі.

Ад 2003 года – на Міншчыне. У 2003-2005-м працаваў інжынерам па лесанарыхтоўках у Старадарожскім доследным лягасе. Ад 2005 да 2017 – ляснічы першага класа Пасецкага лясніцтва Старадарожскага доследнага лягаса. Ад 2017 года – галоўны ляснічы гэтага лягаса.

Жанаты, выхоўвае дваіх дзяцей. У Вілейскі доследны лягас прызначаны ад 15 красавіка загадам міністра лясной гаспадаркі.

Па словах Таццяны Анішчык, **Андрэй Худалей**, былы кіраўнік Вілейскага доследнага лягаса, звольніўся па ўзгадненні бакоў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У Іжанскім сельвыканкаме – новы старшыня

ВІЛЕЙКА

Ад 31 сакавіка на пасадзе старшыні Іжанскага сельвыканкама – **Дзмітры Субач**.

Дзмітры Георгіевіч нарадзіўся ў Вілейцы ў 1981 годзе. У 2003 годзе скончыў Акадэмію МУС Рэспублікі Беларусь. Мае спецыяльнасць «правазнаўства», паведамляюць у Вілейскім райвыканкаме. Да абрання на пасаду старшыні сельвыканкама служыў у міліцыі на Вілейшчыне.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

ЛІЧБА НУМАРА

**10 700**

СТОЛЬКІ НОВЫХ КВАТЭР ПАБУДАВАЛІ Ў БЕЛАРУСІ ЗА СТУДЗЕНЬ - САКАВІК

ПАВОДЛЕ BELSTAT.GOV.BY

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 16.04 | 23.04 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.4506 | **2.4949** |
| Еўра | 2.6832 | **2.7028** |
| Злоты, 10 | 5.9084 | **5.9770** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.3209 | **3.2460** |
| Грыўня, 100 | 9.0087 | **9.2337** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | **15.04** | **22.04** |
| Еўра | 2.6500/2.7300 | **2.6500/2.7500** |
| Долар ЗША | 2.4000/2.4800 | **2.4600/2.5400** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | **15.04** | **22.04** |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 23,06 | **23,06** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,85 | **3,25** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 8,62 | **8,37** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,50 | **9,50** |
| Карп жывы, 1 кг | 5,20 | **5,20** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 6,30 | **6,30** |
| Скумбрыя с/с, 1 кг | 9,80 | **9,80** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 18,70 | **16,80** |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,30 | **2,30** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,95 | **2,40** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,00 | **2,00** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,50 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,85 | **1,85** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,80 | **2,00** |
| Агуркі, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Баклажаны, 1 кг | 5,90 | **6,90** |
| Бульба, 1 кг | 0,70 | **1,00** |
| Буракі, 1 кг | 0,80 | **0,70** |
| Капуста, 1 кг | 0,80 | **1,90** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,80 | **2,70** |
| Морква, 1 кг | 0,80 | **0,60** |
| Памідоры, 1 кг | 4,50 | **4,90** |
| Перац, 1 кг | 7,80 | **6,50** |
| Радыс, пучок | 3,50 | **3,30** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,70 | **1,70** |
| Часнок, 1 кг | 13,90 | **9,90** |
| Шампіньёны, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,90 | **3,90** |
| Бананы, 1 кг | 2,70 | **2,60** |
| Вінаград, 1 кг | 8,90 | **8,50** |
| Гранат, 1 кг | 5,50 | **5,00** |
| Грушы, 1 кг | 3,95 | **3,80** |
| Ківі, 1 кг | 3,90 | **4,90** |
| Лімон, 1 кг | 10,90 | **8,50** |
| Мандарыны, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Чарнасліў б/к, 1 кг | 7,50 | **7,50** |
| Яблыкі, 1 кг | 2,60 | **2,50** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **–** |
| Масла, 1 кг | 15,00 | **–** |
| Сала, 1 кг | 12,50 | **–** |
| Сыр, 1 кг | 13,00 | **–** |
| Тварог, 1 кг | 7,50 | **–** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **–** |

## На пажары ў Радашкавічах загінуў пенсіянер

**МАЛАДЗЕЧНА**

18 красавіка каля 18:30 наступіла паведамленне аб загаранні жылога дома ў Радашкавічах.

Пра пажар паведамілі суседзі: «Мы праз акно ўбачылі, як гарыць веранда ў суседнім доме».

Неадкладна да месца выкліку прыехалі падраздзяленні выратавальнікаў. Па прыездзе дом гарэў адкрытым полымем. Відавочцы паведамілі, што ў доме можа знаходзіцца чалавек. На падлозе ў верандзе, адкуль пачаўся пажар, знайшлі мужчыну без прыкмет жыцця. Работнікі «хуткай дапамогі» канстатавалі смерць мужчыны, 62-гадовага пенсіянера.

Дом належаў 42-гадовай жанчыне. Пажарнага апавяшчальніка не было. Прычыну пажару высвятляюць. Меркаваная версія – парушэнне правілаў эксплуатацыі электрасетак і электраабсталявання. Пажар знішчыў дах, пашкодзіў маёмасць і сцены.

МНС папярэджвае: адныя з «падпальшчыкаў» нашых кватэр і дамоў застаюцца электрапрыборы. Пры іх эксплуатацыі неабходна выконваць наступныя меры пажарнай бяспекі: не ўсталёўваць іх каля прыбораў ацяплення. Для хуткага адключэння ад сеткі разетка, у якую ўключаны электрапрыбор, павінна знаходзіцца ў даступным месцы. Не пакідаць уключаныя электрапрыборы без нагляду, не дапускаць выкарыстання дзецьмі ў адсутнасць дарослых. Пасля выкарыстання электрапрыборы неабходна адключаць ад сеткі, вынянўшы вілку з разеткі. Не пакідаць тэлевізар у «рэжыме чакання», калі вы сыходзіце з дома і на ноч. Таксама выратавальнікі рэкамендуюць устанавіць пажарны апавяшчальнік.

**Аддзел інфармацыі.**

## Грузчыкі на працы пілі гарэлку. Іх заўважыў ахоўнік

**ВІЛЕЙКА**

13 красавіка ў 20:20 у Вілейскі РАУС патэлефанаваў ахоўнік крамы «Еўраопт», што на Чапаева. Ён паведаміў, што верагодна два грузчыкі крамы – нецвярозыя.

Калі міліцыянеры прыбылі на месца, інфармацыя пацвердзілася. Два вілейчукі – 60-гадовы і 30-гадовы – сапраўды былі ў стане алкагольнага ап'янення. У кожнага было па адным праміле алкаголю, расказаў карэспандэнту «Рэгіянальнай газеты» намеснік начальнік Вілейскага РАУС **Мікалай Мягкоў**.

Затрыманыя расказалі, што прынеслі з сабой гарэлку на працу, якую схавалі на вуліцы, каля курылкі. Калі выходзілі пакурыць, трохі выпівалі. Абодвух адхілілі ад працы за знаходжанне ў нецвярозым стане, згодна з часткай 2 артыкула 17.3 Кодэкса Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях. Таксама ім далі штраф.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Як трэба спальваць смецце і смажыць шашлык

Вясной актуальнай становіцца праблема выпальвання сухой расліннасці. Вясновыя пажары часта здараюцца па віне чалавека.

Многія людзі, наводзячы парадак на ўласных падворках, прысядзібных участках, не задумваюцца аб правілах пажарнай бяспекі.

У выніку ад невялікага вогнішча могуць загарэцца будынкі, надворныя пабудовы, аўтамабілі, тарфянікі, лес, могуць пацярпець або загінуць самі людзі.

МНС нагадвае. На тэрыторыі базы адпачынку, дачнага кааператыва, садаводчага таварыства, прысядзібнай тэрыторыі дапускаецца кантраляванае развядзенне вогнішчаў, размяшчэнне спецыяльных прыстасаванняў для вугалю (мангала, барбекю, грылю і аналагічных) пры ўмове:

- прыняцця мер па нераспаўсюджанні гарэння за межы пляцоўкі;
- пастаяннага кантролю за вогнішчам і забеспячэння сродкамі тушэння (вогнетушыцель, ёмістасць з вадой, рыдлёўка і г.д.). Пасля заканчэння пікніка ўсё трэба трэба патушыць да поўнага спынення тлення;
- размяшчэння вогнішчаў на адлегласці не менш за дзесяць метраў ад будынкаў, за 20 метраў ад лясных масіваў, за 30 метраў ад сціртаў сена і саломы;
- размяшчэння спецыяльных прыстасаванняў, мангалаў на адлегласці, не меншай за чатыры метры ад будынкаў.

Незаконнае выпальванне сухой расліннасці, траў на карані, а таксама ржышча і пажніўных рэштках на палях або непрынцыпнае мер па ліквідацыі выпальвання на зямельных участках цягнуць накладанне штрафу ў памеры ад дзесяці да сарака базавых велічынь.

**ГРАНС Маладзечна.**



Падобнай прыладай жыхар Вілейкі пабіў свайго знаёмага.

# Адзін віляйчук пабіў другога цвікадзёрам

### У выніку ў пацярпелага – інваліднасць

**ВІЛЕЙКА**

**15 красавіка ў судзе Вілейскага раёна зачыталі прыгавор 21-гадоваму жыхару Вілейкі.**

Здарэнне адбылося яшчэ зімой, ноччу 3 студзеня. 21-гадовы віляйчук у двары свайго дома стукнуў 22-гадовага знаёмага цвікадзёрам: два разы па тулаве і адзін раз – па галаве. Пацярпелы атрымаў цяжкую чэрапна-мазгавую траўму.

Як высветлілі спецыялісты, падзеі разгортваліся так. Брат абвінавачанага праз сацсетку спісаўся з пацярпелым. Адразу запрашаў яго сустрэцца, адзначыць Новы год. Але пасля ў перапісцы паміж маладымі людзьмі ўзнік канфлікт. На сустрэчу прыйшлі пацярпелы з сябрам і абвінавачаны са сваім братам. Прычым абвінавачаны прыхапіў з сабой цвікадзёр.

**Падчас сустрэчы паміж братам абвінавачанага і пацярпелым завязалася патасоўка, яны паваліліся на зямлю. У нейкі момант абвінавачаны адкінуў брата і стукнуў пацярпелага цвікадзёрам тры разы.**

– На судзе і пацярпелы, і яго брат прызнавалі, што пагрозы іх жыццю і здароўю не было. Адпаведна не было неабходнасці біць пацярпелага, – тлумачыць памочнік пракурора Вілейскага раёна **Наталля Стрэж**.

На судзе абвінавачаны прызнаў віну і раскаяўся. Суд улічыў гэтыя абставіны, а таксама тое, што абвінавачаны мае непаўнагадовае дзіця. А вось тое, што злачынства здзяйснялася ў стане алкагольнага ап'янення, абцяжарыла абставіны.

Пацярпелы прад'явіў абвінавачанаму грамадзянскі іск на 10 тысяч рублёў як матэрыяльную і маральную кампенсацыю і падаў суду дакументы пра сваё лячэнне. У выніку траўмы малады чалавек атрымаў трэцюю групу інваліднасці.

Фігуранта асудзілі па частцы 1 артыкула 147 Крымінальнага кодэкса – свядомае прычыненне цяжкіх цялесных пашкоджанняў.

**Абвінавачанаму прысудзілі чатыры гады калоніі. А яшчэ ён павінны цалкам задаволіць грамадзянскі іск пацярпелага.**

Прыгавор не ўступіў у законную сілу і можа быць абскарджаны.

Вілейская пракуратура заклікае грамадзян думаць пра свае ўчынкі і іх наступствы.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Выйшла на балкон, а дзверы зачыніліся

**МАЛАДЗЕЧНА**

17 красавіка ў ГРАНС Маладзечна патэлефанавала маладзечанка з вуліцы Скарыны. Яна паведаміла, што яе суседка выйшла на балкон, а дзверы выпадкова зачыніліся.

– Дапамагчы жанчыне паехала выратавальная падраздзяленне №15. Выратавальнікі па лесвіцы залезлі на балкон другога паверха, дзе была жанчына, і спецыяльнай прыладай адчынілі дзверы, – расказала карэспандэнту інспектар групы прапаганды і навучання Маладзечанскага ГРАНС **Валянціна Сопат**.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Выпісалі штрафы за парушэнне навядзення парадку на зямлі

**МЯДЗЕЛ**

Раённая інспекцыя прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя склала з пачатку года восем пратаколаў на парушальнікаў заканадаўства па пытаннях навядзення парадку на зямлі.

Выпісалі штрафы на суму 2835 рублёў. Акрамя таго, выдалі 33 рэкамендацыі па ўхіленні выяўленых недахопаў і 25 актаў прадпісанняў.

**Паводле narachanka.by.**

## Набыла кашулю за чатыры долары, а патраціла 350 рублёў

**МАЛАДЗЕЧНА**

Жыхарка Маладзечна пазбавілася амаль 400 рублёў, набыўшы ў інтэрнэце кашулю за чатыры долары.

24-гадовая грамадзянка, звярнуўшыся ў міліцыю, распавяла, што тавар замовіла на сайце MimoreShop.com. Для аплаты дзэўчына паказала рэквізіты сваёй банкаўскай карты, а менавіта 16-значны нумар, тэрмін дзеяння і CVV-код. Аднак смс-паведамленняў аб спісанні грошай яна не атрымлівала.

Пра крадзеж пацярпелая даведалася толькі праз некаторы час, калі на тэлефон прыйшло паведамленне аб астатку на карт-рахунку. Тады маладзечанка зразумела, што яе развялі ашуканцы і спісалі парадку 350 рублёў, праўда, у кітайскіх юанях.

У ходзе праверкі апаратыўнікі ўстанавілі, што сайты – махлярскія. Ашуканцы скарысталіся ўведзенымі рэквізітамі банкаўскіх карт і выкралі з рахунка пацярпелай грошы. Цяпер устанаўліваюць падазроных асоб.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

# У маладзечанкі пацвердзілі каранавірус

**Маладзечанцаў Вольгу і Яна Лагвіновічаў, а таксама іх дваіх дзяцей шпіталізавалі ў Смалявічы. Жанчына падзялілася, як сябе адчувае і што думае пра хваробу.**



Фота Настассі УТКІНАЙ.

Вольга Лагвіновіч раіць быць адказнымі, каб даць магчымасць медыцынскім работнікам дапамагчы як мага большай колькасці хворых.

«Хуткая дапамога» даставіла маладзечанцаў з дому ў Смалявічы 21 красавіка. Шпіталізавалі ўсю сям'ю, разам з дзецьмі 10 і 14 год.

**Па словах Вольгі, сімптомы яна заўважыла за сабой некалькі тыдняў таму – 29 сакавіка. Тэмпература, боль у горле. Жанчыну шпіталізавалі ў пульманалогію.**

Жанчына падкрэслівае, што каранавірус – вельмі каварная хвароба, якая мае розныя сімптомы і з рознай цяжкасцю працякае. Таму дактарам не так проста яе дыягнаставаць, тым больш, што захворванне новае і пра яго вядома не ўсё. Аднак усе медыкі, з якімі сутыкалася Вольга, вельмі стараліся дапамагчы і рабілі ўсё, што маглі.

Пасля выпіскі з пульманалогіі стан маладзечанкі не палепшыўся, жанчына далей звярталася па медыцынскую дапамогу. Вольгу шпіталізавалі ў Жодзіна, дзе і зрабілі тэст на каранавірус. 20 красавіка жанчыне пагоршала, узнялася высокая тэмпература. Вечарам пазванілі з Цэнтра гігіены і эпідэміялогіі і пацвердзілі, што тэст на каранавірус у Вольгі станоўчы.

21 красавіка і Вользе, і Яну рабілі КТ у Вілейцы. Абодвум даследаванне паказала пнеўманію. Тэст на каранавірус Яну не рабілі, але, па меркаванні Вольгі, ён таксама хварэе на COVID-19.

У час хваробы Вольга была дома, дзеці былі на ізаляцыі, Ян працуе на прадпрыемстве ў Заслаўі.

**Жанчыну хвалюе, што падчас хваробы мела кантакты з многімі медыкамі і магла іх заразіць.**

– Я такая не адна, нас шмат, і дактарам вельмі цяжка. – кажа Вольга. – Я ўдзячная медыцынскім работнікам, якія са мной працавалі і ва ўсім дапамагалі. Зразумела, што ў барацьбе з каранавірусам выратуе толькі самасвядомасць. Калі выходзіце на вуліцу, надзявайце пальчаткі і маскі, трымайцеся самаізаляцыі. Трэба імкнуцца не разносіць хваробу, інакш мы проста не дадзім дактарам з ёй справіцца.



Зоя ХРУЦКАЯ
regionnews@rh.by
(8-033) 66-719-77

## Дзяржкантроль: у Мядзельскай ЖКГ за «камуналку» людзям налічвалі больш, чым трэба

Маладзечанскі міжраённы камітэт дзяржкантролю правёў пазапланавую праверку УП «Мядзельская жыллёва-камунальная гаспадарка». У ходзе праверкі ўстанавілі парушэнні пры налічэнні аплаты за аказаныя насельніцтву жыллёва-камунальныя паслугі, неэфектыўнае выкарыстанне сродкаў бюджэту, парушэнні заканадаўства ў сферы зямельных адносін.

Так, ад лютага 2019 да лютага 2020 года прадпрыемства залішне налічвала і прад'яўляла плацяжы насельніцтву за паслугі па цеплазабеспячэнні (ацяпленні), тэхнічным абслугоўванні, капітальным рамонце, гарачым і халодным водазабеспячэнні, водаадвядзенні (каналізацыі) на суму больш за 2,6 тысячы рублёў.

Таксама ўстанавілі, што больш за чатыры гады прадпрыемствам не запатрабаваная праектна-каштарысная дакументацыя па будаўніцтве водаправодных сетак, станцыі абезжалезвання ў Сырмежы і пашырэнні ачышчальных збудаванняў у курортным пасёлку Нарач. Станцыю ў Сырмежы і пашырэнне ачышчальных збудаванняў у Нарачы рабілі ў рамках рэалізацыі мерапрыемстваў Дзяржаўнай праграмы па водазабеспячэнні і водаадвядзенні «Чыстая вада». На ўсё выдаткавалі каля 90 тысяч рублёў з бюджэту. А страты ад утрымання няпрофільных актываў прадпрыемства толькі ў 2019 годзе перавысілі пяць тысяч рублёў.

Па выніках праверкі за парушэнні патрабаванняў заканадаўства УП «Мядзельская жыллёва-камунальная гаспадарка» і службовых асоб прадпрыемства прыцягнулі да адміністрацыйнай і дысцыплінарнай адказнасці. Дапушчаныя парушэнні ў налічэнні аплаты за жыллёва-камунальныя паслугі і парушэнні зямельнага заканадаўства ліквідаваныя.

**Маладзечанскі міжраённы камітэт дзяржкантролю.**

## На Радаўніцу і днямі раней у Маладзечне пусцяць дадатковыя аўтобусы на могілкі

Маладзечанскі аўтапарк №4 арганізуе дадатковыя рэйсы за некалькі дзён да Радаўніцы і 28 красавіка.

Перад Радаўніцай, **ад 24 да 27 красавіка** ўключна, аўтапарк №4 пусціць дадатковы гарадскі аўтобусны маршрут: Старое Места – могілкі ў Лазаўцы.

Час адпраўлення аўтобуса ад Старога Места (пасадка пасажыраў ля СШ №5): **10:00, 10:50, 11:40, 12:30, 13:20, 14:10, 15:00, 15:50.**

Час адпраўлення аўтобуса ад могілк у Лазаўцы: **10:25, 11:15, 12:05, 12:55, 13:45, 14:35, 15:25, 16:15.**

**28 красавіка** (у дзень Радаўніцы) ад 9:00 да 16:00 (з інтэрвалам руху праз кожныя 20 мінут – тры аўтобусы) ад Старога Места (пасадка пасажыраў ля СШ №5) да могілак у Лазаўцы таксама арганізуюць рух дадатковых аўтобусаў.

Рух аўтобуса №5 Старое Места – вуліца Велікасельская 28 красавіка пройдзе праз АЗС «Юнайтэд Компані».

Аўтобус №6 28 красавіка будзе ездзіць па графіку працоўнага дня (два аўтобусы) з падаўжэннем маршруту да Насілава.

**Аўтапарк №4.**

## Міністэрства аховы здароўя: на выхадных застаньцеся дома і не ідзіце на могілкі

Міністэрства аховы здароўя заклікае на вялікія выхадныя застацца дома і не наведваць могілкі.

Пра гэта заявіла намеснік начальніка аддзела гігіены, эпідэміялогіі і прафілактыкі Міністэрства аховы здароўя Іна Карабан падчас стрым на YouTube-канале Нацыянальнага прэс-цэнтра, перадае карэспандэнт БЕЛТА.

– Кожны чалавек не ведае, інфіцыраваны ён ці не. Разам з тым некаторыя збіраюцца ехаць да сталых бацькоў, – адзначыла Іна Карабан. – У чарговы раз Міністэрства аховы здароўя заклікае людзей на вялікія выхадныя застацца дома, не наведваць могілкі, каб максімальна паменшыць магчымасць інфіцыравання. Калі ласка, мы просім звярнуць на гэта асаблівую ўвагу, – звярнулася намеснік начальніка да беларусаў.

**Па яе словах, напрыклад, могілкі можна наведаць і ў іншы час. Цяпер лепш абмежаваць свае кантакты.**

У першую чаргу, са сталымі бацькамі.

**Паводле БелТА.**

# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб'яву**

МАЛАДЗЕЧНА Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.**
АСТРАВЕЦ вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.**
АШМЯНЫ вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.**
ВАЛОЖЫН вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.**
ВІЛЕЙКА вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.**
МЯДЗЕЛ вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.**
СМАРГОНЬ вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **4-47-16**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Нісан-Прэм'ера, 1999 г.в., у добрым стане. Т. (8-029) 5080447.*

• Дыскі жалезныя R14 (4х108), 4 шт., стаялі на Ford, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

• Задні мост ад ЗІЛ-157, укарочаны, з новай гумай. 300 руб., торг. Т. (8-029) 5492191.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО:** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-044) 4886067.***

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 1236722, (8-033) 3631161.*

• Аўто, можна аварыйнае. Дорага! Т. (8-029) 5677052.*

• Любое аўто на хаду для сябе з пераафармленнем. Грошы адразу. Т. (8-029)6412706, (8-029) 7646646.*

• Масквіч ІЖ 2715 для сябе, можна няспраўны. Т. (8-033) 3537422.

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• Дача ў Асінаўцы. Участак 10 сотак. Смаргонь. Т. (8-033) 3591382, МТС (8-044) 5622655.*

• Дом недабудаваны ў рысе горада Астравец. Побач лес і возера. Т. (8-029) 5322793.*

• Дом у вёсцы Асінаўка, 2 м ад возера. Т. (8-033) 3591382, МТС (8-044) 5622655.*

• Зямельны ўчастак 20 сотак у 100 м ад возера Вялікія Швакшты ў в. Цюкшы Нарачанскага с/с. Прыгожае месца для адпачынку і рыбалкі. Беларуская прырода заменіць вам мора. Чысты пляж з белым пяском. Побач лес. Без сумежных суседзяў. Пад'езд круглы год. Нядорага. Торг да месца. Т. Вэлком (8-029) 6154551.

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Жывая музыка. Тамада. Разумныя цэны. Т. (8-033) 3400865.*

### БУДАЎНІЧАЯ ТЭХНІКА

• Міні-экскаватар. Міні-пагрузчык. Трамбоўка 500 кг. ІП Карповіч В.В. УНП 692013268 Т. (8-029) 9381010.*

## ПАСЛУГІ

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ.** ІП Мамай У.А. УНП 692014435 Т. МТС (8-029) 8886923.*

• «Дах пад ключ». Металачарапіца, прафнасціл (ад 8,5 руб./кв.м), піламатэрыялы. Замер. Растэрміноўка. Дастаўка. Мантаж. ІП Аноп С.М. УНП 190945853 Т. (8-029) 6668710, (8-033) 6333151.*

• Бурэнне свідравін (скважин) на ваду. ІП Субат П.І. УНП 692010733 Т. (8-029) 7737451, (8-029) 8331245.*

• Бурэнне свідравін (скважин). Калонкі. Помпы. Падвод вады да дома. Наяўны/безнаяўны разлік. ІП Янцэвіч А.Г. УНП 590945450. Т. А1 (8-029) 1287878, МТС (8-029) 7860317.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029)7632186.*

• Вагонка для лазні, паліц, вольха, дошкі для падлогі, паганажныя вырабы, брускі і інш. ПП «Маркціна Білд» УНП 690627804 Т. (8-029)1891477, (8-029)2518322.*

• Вокны ПВХ. Дах, Сайдынг. Рамонт. Замена. Абслугоўванне. Кансультацыя бясплатная. ІП Котаў У.І. УНП 692241473 Т. (8-029) 2541558, (8-029) 7659498.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826 Т. (8-029) 5024571.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года. ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Велком (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя з дастаўкай і выгрузкай. Можна ў растэрміноўку да 36 месяцаў. ІП Кірык Е.А. УНП 591819465 Т. (8-044) 7516244.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



**Жывёла, птушка, пчолы**

• Казляняты. Т. (8-029)5737741.

**Іншае**

• Дзве дзіцячыя ванначкі для купання (па 10 руб.), кенгуру для пераноскі дзяцей (7 руб.), падагравальнік для сумесі Philips Avent (40 руб.), вароты бяспекі для лесвіц і дзвярэй (50 руб.), электрычны малакаадсос (30 руб.). Маладзечна. Тэл. (8-033) 3668181.*

• **КАМБІКОРМ, ЗБОЖЖА, ВОТРУБ'Е, КРУПЫ** з дастаўкай на дом па Вілейскім раёне. ПП "ВітМа 2007" УНП 690626823. Т. (8-029) 3999466.*

• Сена. Т. (8-029) 6870898.*

• **УНІВЕРСАЛЬНЫ ФУГАВАЛЬНЫ ВАЛ НОВЫ. Т. (8-029) 9430353.***

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Арматуру, вугалок, профіль.Т. (8-029) 3068662.*

• Бульбу буйную. Т. (8-029) 2637474, (8-029) 3757244, (8-033) 6316371.*

## ПРАЦА

### ПАТРАБУЕЦЦА

• Сядзелка для пажылой жанчыны. Ст. Ашмяны Ашмянскага раёна. Усе пытанні па тэлефоне (8-029) 2504982.

• Шукаем сядзелку для пажылой ляжачай жанчыны. 3 пражываннем. (Вілейскі раён, в.Старынкі). Умовы работы абмяркоўваюцца. Т. (8-029) 6575037.

### ШУКАЮ РАБОТУ

• Будаўнічыя, дэмантажныя работы. Т. (8-044) 7556706, (8-033) 3160206.




ПАДАЧА АБ'ЯЎ І РЭКЛАМЫ Ў БЛІЖЭЙШЫ НУМАР «РЭГІЯНАЛЬНАЙ ГАЗЕТЫ» – да 16:00 серады
Аддзел рэкламы: (8-0176) 53-78-04 (тэл./факс), (8-029) 676-84-20, 573-28-47
E-mail: reklama@rh.by

Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна:

| | |
|---|---|
| Астравец | -01591 |
| Ашмяны | -01593 |
| Валожын | -01772 |
| Вілейка | -01771 |
| Маладзечна | -0176 |
| Мядзел | -01797 |
| Смаргонь | -01592 |





У школьным музеі сярэдняй школы №3 Смаргоні.

# Школьны музей запрашае ў анлайн-падарожжы і прапануе віктарыны

СМАРГОНЬ

**Сёння, калі мы абавязаныя больш знаходзіцца дома, смаргонская сярэдняя школа №3 прапануе віртуальна прайсціся па вуліцах горада.**

Гісторыка-краязнаўчы музей сярэдняй школы №3 горада Смаргоні запрашае вучняў школы і іх бацькоў, а таксама ўсіх ахвотных у віртуальнае падарожжа па родным краі «Смаргонь: Гістарычнае мінулае і сучаснае». Можна пагартаць даведнік «Азбука роднага горада», які знаёміць са Смаргоншчынай ад «А» да «Я». Першым прыпынкам з'яўляецца мясцовы брэнд «Абаранкі». Тут жа можна даведацца пра вуліцы горада, смаргонскіх гарбароў, мядзведжую акадэмію, раку Оксну, знакамітых землякоў **Уладзіміра Някляева**, **Аляксандра Дзяругу**, **Алеся Жамойціна**, **Уладзіміра Церабуна**.

На сайце таксама можна праверыць, ці ведаеце вы гісторыю Смаргоні. Для гэтага ёсць віктарыны «Смаргонь у гады Першай сусветнай вайны», «Смаргонь у 20-я – 30-я гады мінулага стагоддзя», «75-годдзе нашай слаўнай Перамогі» і іншыя.

Таксама запрашаем папоўніць і паглыбіць свае веды пра нашага знакамітага земляка **Францішка Багушэвіча**, 180-годдзе з дня нараджэння якога адзначалася 21 сакавіка. Правядзіце свой час з карысцю, каб ведаць свае карані і адчуваць сваімі на роднай зямлі.

**Ларыса БАГДАСАР'ЯН,**
**настаўнік гісторыі і грамадазнаўства вышэйшай катэгорыі сярэдняй школы №3 г.Смаргоні.**
**Фота забяспечанае аўтарам.**

# Вучні прысвяцілі свае вершы Смаргоншчыне

СМАРГОНЬ

**У рамках святкавання 80-годдзя з дня стварэння раёна на Смаргоншчыне зладзілі раённы конкурс аўтарскіх вершаў «Свой край родны ў вершах мы славім».**



Пяцікласнік смаргонскай школы №7 Яўген Стурліс – адзін з пераможцаў паэтычнага конкурсу.

Конкурс праводзілі ў два этапы. На першы, адборачны, прадставілі 115 вершаў з 15 устаноў агульнай сярэдняй адукацыі па трох намінацыях. У другім, заключным, дыстанцыйным этапе паўдзельнічала 30 работ у трох намінацыях.

У вершах, прапанаваных на конкурс вучнямі з Асінаўшчызны, Сінькоў, Крэва, Сыраватак, журы адзначыла сэнсавую і кампазіцыйную цэласнасць, стылістычную і моўную пісьменнасць, рытмічную складнасць.

Прапанаваныя відэазапісы аўтарскіх вершаў смаргонскай гімназіі, школ №№1, 2, 6 і 7, Жодзішкаўскага і Залескага сада-школы адзначылі за прамоўніцкае майстэрства, артыстызм і эмацыйнасць.

Пераможцаў конкурсу ўзнагародзілі дыпломамі і падзячнымі лістамі ўпраўлення адукацыі Смаргонскага райвыканкама.

**Юлія ГРЫГАРЧУК,**
**Таццяна НОВІКАВА,**
**метадысты Смаргонскага раённага вучэбна-метадычнага кабінета.**
**Фота забяспечанае аўтарамі.**

# «Да вечара ў нашых касцюмах збіралася два літры поту»

## Маладзечанец расказаў, як тушыў тарфяныя пажары ў чарнобыльскай зоне

МАЛАДЗЕЧНА

**У ноч з 25 на 26 красавіка 1986 года на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі ў некалькіх кіламетрах ад Прыпяці адбыўся выбух, які разбурыў рэактар чацвертага энергаблока.**

У 1 гадзіну 30 хвілін у бой з агнём прыбылі падраздзяленні пажарнай аховы з горада Прыпяць. Гэта былі маладыя хлопцы **Віктар Кібянок**, **Уладзімір Правік**, **Васіль Ігнаценка**, **Уладзімір Цішура**, **Мікалай Ціцянок**, **Мікалай Вашчук**. Маёр **Леанід Цялятнікаў**, начальнік часці, быў у адпачынку. Даведаўшыся пра бяду, ён праз 20 хвілін заняў сваё месца на перадавой.




Фота з архіва Уладзіміра АСТАХНОВІЧА.

**Але былі і іншыя героі, якія вялі барацьбу з не менш небяспечнымі тарфянымі і ляснымі пажарамі ў 30-кіламетровай зоне заражэння. Сярод іх і маладзечанец Уладзімір Астахновіч.**




Падчас камандзіроўкі ў чарнобыльскую зону. Май-чэрвень 1986 года.

– У маі 1986 года начальнік самастойнай ваенізаванай пажарнай часці Маладзечна, дзе я служыў, абвясціў на пастраенні, што патрабуецца каманда добраахвотнікаў для паездкі ў радыеактыўную зону, – распавядае Уладзімір Рычардавіч.

**– Як вы трапілі ў пажарную ахову?**

– У 1979 годзе, скончыўшы школу з пахвальнай граматай, я паступіў без экзаменаў у Мінскі палітэхнікум ордэна працоўнага Чырвонага Сцяга, цяпер гэта Мінскі дзяржаўны політэхнічны каледж, на аддзяленне супрацьпажарнай тэхнікі і бяспекі. Лічу, што выбар прафесіі – справа шчаслівага выпадку. Я мог паступіць на любое аддзяленне.

Калі я стаяў ля стэнда з інфармацыяй аб наяўных спецыяльнасцях, да мяне падышоў мужчына і расказаў, што ёсць такое аддзяленне па тэхніцы бяспекі, дзе рыхтуюць герояў і вучаць ратаваць людзей ад агню. Не ведаю, як ён зразумеў, што я не вызначыўся з прафесіяй. Але яго аповед паўплываў на ўсё маё жыццё. Пасля я даведаўся, што гэта быў загадчык аддзялення па тэхніцы бяспекі.

**– Як вы адважыліся ехаць у зону заражэння добраахвотна?**

– Калі б не знайшліся добраахвотнікі, начальніку прыйшлося б самому прызначаць, каму туды ехаць. Я і мае сябры былі адчайнымі хлопцамі. Першым падахвоціўся мой таварыш. Я падумаў, як ён там без мяне, і падахвоціўся другім. Далучыўся яшчэ адзін наш сябар са словамі: «Калі яны едуць, еду і я». У выніку добраахвотнікаў было шасцёра.

Прыехалі мы ў Мінск, дзе фарміравалі зводны атрад. Сюды ўвайшлі пажарныя з Барысава, Салігорска і Маладзечна. Усяго нас было каля 20 чалавек на трох машынах. Ужо 24 мая мы былі ў 30-кіламетровай зоне, у Брагінскім раёне, у вёсцы Савічы.

**– Няўжо не было пачуцця страху?**

– Калі што і пужала нас, дык гэта невядомасць. Ніхто не ведаў, як абараніцца ад нябачнага ворага. Размясціліся мы ў будынку дзіцячага садка.

**Было бачна, што калі эвакуіравалі дзяцей у садках і школах, людзі спяшаліся, была паніка, страх. Пра гэта проста крычала абстаноўка вакол: раскіданыя цацкі, недапіты чай на стале, адкрытыя насцеж дзверы шафаў.**

Першы дзень наш атрад наводзіў парадак у памяшканні. Усе наступныя дні мы тушылі пажары ад самай раніцы і да позняй ночы. Наша камандзіроўка доўжылася да 7 чэрвеня.

**– Што можаце распавесці пра тыя цяжкія баі ў мірны час?**

– Каардынаты на баявыя выезды да нас паступалі з Брагіна па выніках авіяразведкі. У асноўным гэта былі пажары на тарфяніках. Вялізныя тэрыторыі палаючага торфу на глыбіні ад 70 сантыметраў да паўтара метра глыбінёй. Працавалі мы ў касцюмах Л-1, на твары – рэспіратар. Памятаю, стаяла 30-градусная гарачыня і да вечара ў гэтых касцюмах поту збіралася літры два.

**– Дадому хацелася?**

– Праца была настолькі цяжкая, што мы не думалі пра дом.

**Сіл хапала толькі на тое, каб памыцца і легчы спаць.**

Вось калі вярталіся дадому – эмоцыі перапаўнялі. Мы былі першапраходцамі, якія выканалі свой абавязак.

**Валянціна СОПАТ, ГРАНС Маладзечна.**

# Забытыя героі мінулай вайны

## Алесь Раткевіч распавядае гісторыю жыцця Антона Мамая з Вілейшчыны

*Працяг. Пачатак у №16.*

ВІЛЕЙКА
МАЛАДЗЕЧНА

**У артыкуле ідзе гаворка пра лёс ураджэнца Вілейшчыны Антона Мамая, які падчас Другой сусветнай загінуў у засценках гестапа.**

Я вырашыў сабраць усе магчымыя звесткі пра гэтага чалавека і распавесці пра яго лёс, а таксама пра лёс і душэўны боль яго родных. Пра несправядлівае стаўленне да іх заслуг перад Радзімай. Пра ўсю праўду мінулага, хоць яна часам будзе і горкай. Галоўная мэта – вярнуць з забыцця імёны забытых герояў мінулай вайны і ўшанаваць іх памяць.



Вяселле Міхася Мамая.

### Перажылі сем уладаў

Але не так гладка, як марылася, працякала сямейнае жыццё **Рыгора** і **Алесі**. І калі зазірнуць наперад, то падчас іх сумеснага жыцця ў Красніцы сем разоў мянялася ўлада. Жаніліся пры Расійскай імперыі, перажылі акупацыю кайзераўскай Германіі, кароткачасовы першы прыход бальшавікоў. Потым уладу панскай Польшчы, праз пакаленне – другі бальшавіцкі прыход, праз два гады – акупацыю фашысцкай Германіяй. А ў 1944-м заступіла савецкая ўлада, і ўжо надоўга, да канца іхніх дзён.

Польскі прыгнёт, бальшавіцкая калектывізацыя і рэпрэсіі жыцця не давалі. А фашысцкая акупацыя забрала шмат жыццяў родных і ўсё, што было нажытае, абрабавала ды зруйнавала. Жылі Мамаі ўвесь гэты перыяд больш у горы, чым у радасці. Нарадзілі 12 дзяцей, але выгадаваць усіх і зберагчы не атрымалася.

Цяжкая сялянская праца забірала шмат часу. Дзеці, як у шматлікіх сялянскіх сем'ях таго часу, часцей раслі самапасам. З ранняга дзяцінства яны набывалі самастойнасць. Але гэта часта прыводзіла да захворванняў са смяротным зыходам. А лячэнне сяляне не маглі сабе дазволіць. Дзіцячая смяротнасць насіла катастрафічны характар. У сям'і Рыгора і Алесі пяцёра дзяцей – **Вікенці**, **Пётра**, **Аляксей**, **Надзя**, **Юля** – памерлі ў раннім дзяцінстве ад розных хвароб. Выжылі **Міхась** (1909 года нараджэння), **Марыя** (1910), **Васіль** (1911), **Антон** (1913), **Вера** (1920), **Юльян** (1923) і **Ганна** (1925 года нараджэння).

### Як Першая сусветная прайшлася па лёсе Рыгора

У 1914 годзе пачалася вайна паміж царскай Расіяй і кайзераўскай Германіяй. У канцы жніўня 1915 года, калі немцы стаялі ўжо каля самай Вільні, на Вілейшчыне пачалі мабілізаваць сялян у царскае войска. Забіралі ўсіх ваеннаабавязаных мужчын, не звяртаючы ўвагі на іх сем'і. Мабілізавалі і Рыгора Мамая. Ён патрапіў у новасфарміраваную другую рускую армію. Падраздзяленні гэтай арміі амаль без падрыхтоўкі накіравалі на фронт пад Свянцяны, дзе ішлі крывапралітныя баі. Калі прыбылі на перадавую, баі прыціхлі. Нямецкія акопы былі метраў за 150, таму салдат разгледзець было не складана. Зацішша іншы раз разрывалі кароткачасовыя перастрэлкі.

Пасля двухдзённага зацішша немцы пайшлі ў наступленне, ужыўшы конніцу. Прарваўшы фронт каля Свянцянаў, немцы прымусілі рускую армію пакінуць Вільню і адступіць пад Маладзечна. Пасля былі контрудары, якія адкінулі нямецкія сілы да возера Нарач. Фронт стабілізаваўся. Але самыя цяжкасці былі яшчэ наперадзе. Рыгор за тры гады труціўся нямецкім газам, бараніўся ад акопных вошай, змагаўся за жыццё ў маразы. Яму пашчасціла выжыць і ў 1918 годзе вярнуцца на акупаваную Вілейшчыну да сям'і. Ён нават не быў паранены. Дома ўзяўся адраджаць сваю гаспадарку. А праз год немцаў замянілі палякі

### Як склаўся лёс дзяцей Рыгора

Рыгор гаспадарыў на сваёй зямлі, у сезон сплаўляў лес па Віліі, каб зарабіць грошы. Дзеці гадаваліся, працавалі разам з дарослымі і вучыліся ў школе. У 1930 годзе на тэрміновую службу ў Войска Польскае прызвалі сына Міхася. Адслужыўшы патрэбны тэрмін дзесьці пад Вільняй, хлопец вярнуўся ў Красніцу, і не адзін.

Прывёз з сабой дзяўчыну, з якой пазнаёміўся падчас службы ў войску. У смаргонскім касцёле пара пабралася шлюбам, у Красніцы адгулялі вяселле. Міхась атрымаў сем гектараў зямлі па прэферэнцыях як жаўнер Войска Польскага. З маладой жонкай **Броняй** пачаў будаваць хутар, завёў гаспадарку. Як усе Мамаі, быў сплаўшчыкам лесу.

У 1939 годзе ўжо адчувалася непазбежнасць вайны Савецкага Саюза з Польшчай. Польскія асаднікі пачалі з'язджаць з Вілейшчыны ўглыб Польшчы. Пакінуўшы хутар сваім бацькам, Міхась паехаў спачатку ў Літву, а пасля – у Польшчу. Там перажыў Другую сусветную, дажыў да старасці, так і не наведаўшы сваіх родных у СССР.

Дачка Рыгора і Алесі, Марыя, яшчэ за польскім часам выйшла замуж у Вілейку. Тут і пражыла ўсё жыццё. Сустрэла вайну, перамогу, выхавала дачку **Веру** і сына **Васіля**.

Сыны Рыгора, Васіль і Антон, адслужылі тэрміновую службу жаўнерамі ў Войску Польскім. Пасля службы яны, як і Міхась, па прэферэнцыі атрымалі па сем гектараў зямлі, на якіх паставілі хутары. Сыны наўмысна не аб'ядноўвалі свае землі з бацькоўскай. Гэта дазваляла плаціць менш падаткаў. Ды і пасля прыходу ў 1939 годзе бальшавіцкай улады, такая аднаўсобіца шмат каго выратавала ад кляйма кулака.

Васіль у 1940 годзе ажаніўся і перасяліўся ў Вілейку. Выхаваў трох дачок – **Алу**, **Марыю** і **Надзю** – і аднаго сына. З Васілём маці, Алеся, пражыла да старасці.

Дачка Мамаёў Вера, як і сястра, выйшла замуж у Вілейку. Выхавала дачку Таню. Малодшага сына Рыгора, Юлюся, у 1941 годзе прымусова вывезлі ў Германію. Усю вайну ён адпрацаваў у фермера. Там пазнаёміўся са зняволенай аўстрыйкай **Гільдай**. У маі 1945 года іх вызвалілі амерыканскія вайскоўцы. Па прапанове амерыканскага боку разам з каханай Гільдай спачатку з'ехаў у Амерыку, а пасля ў аўстралійскі горад Гельмонт, дзе і ажаніліся. Усё сваё жыццё адпрацаваў на чыгунцы. Юлюсь разам з Гільдай выхавалі двух сыноў, **Франка** і **Тоні**, мелі ўнукаў. У 1970-х гадах мінулага стагоддзя Юлюсь меў намер разам з братам Міхасём наведаць радзіму, але СССР не дазволіў ім уезд на савецкую тэрыторыю. Стасункі з роднымі былі толькі праз пісьмы.

Самая малодшая Рыгорава дачка, Ганна, любімая сястра Антона, выйшла замуж у Роцькавічы, што на Вілейшчыне. Выхавала сына **Канстанціна** і дачку **Марыю**. Сёння сын жыве ў Гродне, а дачка – у Маладзечне. 11 верасня 2010 года трагічна абарвалася жыццё Ганны. Яна ў свае 85 год пайшла ў грыбы і знікла.

Пры жыцці яе часта наведвала дачка брата Антона, **Галіна**. Аднойчы Ганна Рыгораўна адчыніла шафу і дастала адтуль хустку. Разгарнуўшы, накінула яе на плечы любімай пляменніцы Галіне.

– Гэта табе, – сказала яна. – Мне гэту хустку падчас вайны падарыў брат Антон, твой тата.

– З таго часу, – кажа Галіна Антонаўна, – у мяне ёсць хоць адзін напамін пра майго тату.

**Алесь РАТКЕВІЧ, Чысць.**
**Фота забяспечанае аўтарам.**

*Працяг чытайце ў наступным нумары.*

● КАЛЯНДАР

### 24 КРАСАВІКА

**1936.** Нарадзілася **Вера Рыч**, англійская паэтэса, перакладчыца з беларускай і ўкраінскіх моў.

**1944.** Нарадзіўся **Зянон Пазняк**, беларускі палітык і грамадскі дзеяч, археолаг, мастацтвазнаўца.

**1981.** Прадстаўлены першы персанальны камп'ютар IBM.

### 25 КРАСАВІКА

**1868.** Нарадзіўся **Раман Скірмунт**, беларускі і польскі грамадска-палітычны дзеяч, буйны землеўладальнік.

**1991.** Удзельнікі палітычнай стачкі ў Оршы блакіравалі чыгуначны вузел.

### 26 КРАСАВІКА

**1986.** Катастрофа на Чарнобыльскай АЭС.

### 27 КРАСАВІКА

**1878.** Нарадзіўся **Станіслаў Любіч-Маеўскі**, беларускі грамадскі і культурны дзеяч, педагог, выкладаў гісторыю і геаграфію ў навуковых установах Польшчы, дырэктар гімназій, у т.л. у Вілейцы. Памёр у 1941 у Мінску.



### 28 КРАСАВІКА

25 год таму выйшаў першы нумар «Рэгіянальнай газеты».

### 29 КРАСАВІКА

**1882.** У Берліне ўвялі ў эксплуатацыю першую ў свеце эксперыментальную лінію тралейбуса.

**1921.** Нарадзіўся **Мікола Ермаловіч**, беларускі пісьменнік, гісторык. Заснавальнік новай беларускай рамантычнай гістарыяграфіі. Жыў і працаваў у Маладзечне. Трагічна загінуў 5 сакавіка 2000 года, трапіўшы пад колы аўтамабіля ў Мінску. Пахаваны ў Маладзечне. У цэнтры горада ў гонар гісторыка ўсталяваны мемарыяльны камень.



### 30 КРАСАВІКА

**1905.** Расійскі імператар **Мікалай II (Мікалай Крывавы)** падпісаў указ пра свабоду веры.

**Падрыхтаваў Мікола ГАЙДУК.**

# «Паніка страшней за каранавірус». Германія ўваходзіць у пяцёрку краін з найбольшай колькасцю хворых

**«Рэгіянальная газета» дэталёва распавядае, як у Германіі распаўсюджваўся каранавірус і як нямецкія ўлады рэагавалі на эпідэміялагічную абстаноўку ў краіне.**

### Ухань – Шанхай – Баварыя

Нямецкія інфекцыяністы прасачылі распаўсюджванне каранавіруснай інфекцыі ў краіне ад першага афіцыйна зафіксаванага выпадку. 16 студзеня ў Шанхай да жанчыны завіталі яе бацькі з Ухані. 19 студзеня кітаянка паляцела ў горад Штокдарф у Баварыі, каб папрацаваць з калегамі на трэнінгу. Тады яна не ведала, што інфіцыраваная, у яе не было сімптомаў.

**21 студзеня кітаянка разам з калегай з Германіі ўдзельнічала ў трэнінгу. У той час, 22 студзеня, нямецкія ўлады просяць устрымацца ад пералётаў у Кітай. 23 студзеня кітаянка вярнулася ў Шанхай, яна адчула сябе хворай.**

У Германіі за ўвесь час зафіксавалі больш за 145 тысяч выпадкаў захворвання.

24 студзеня мужчына, які быў на трэнінгу, адчуў сябе кепска: пакутаваў ад болю ў горле, высокай тэмпературы. У той жа дзень Міністэрства аховы здароўя Германіі заявіла, што «няма прычын для турботы альбо панікі» праз каранавірус. У буйных аэрапортах супрацоўнікі пачалі шукаць прыкметы хваробы ў людзей, якія прыбывалі з Кітая.

26 студзеня хворы мужчыны з Штокдарфа пачаў папраўляцца. У жанчыны з Шанхая тэст на каранавірус паказаў станоўчы вынік. Мінздароўя сказала, што паніка страшней за каранавірус.

27 студзеня жанчына з Шанхая праінфармавала кампанію ў Германіі пра свой тэст. Яе нямецкі калега атрымаў станоўчы вынік тэста на каранавірусную інфекцыю – ён станоўіцца першым інфіцыраваным у краіне. На наступны дзень яшчэ ў трох чалавек знаходзяць каранавірус. Яны таксама супрацоўнічалі з людзьмі з той кампаніі, у якую прыязджала кітаянка.

29 студзеня «Люфтганза» адмяніла ўсе самалёты з Кітая. 30 студзеня Мінздароўя Германіі зафіксавала захворванне ў некалькіх землях.

### Эвакуацыя і інфіцыраваныя ва ўсіх землях Германіі

1 лютага ўлады Германіі пачалі эвакуацыю немцаў з Кітая. 7 лютага ў Германіі пацверджаны 14 выпадкаў каранавіруснай інфекцыі. 12 з 14 выпадкаў былі звязаны з кампаніяй, на трэнінг якой прыязджала жанчына з Шанхая. У той час у Кітаі хварэюць больш 30 тысяч чалавек. Нямецкія ўлады плануюць выдаткаваць на барацьбу з каранавірусам 23 мільёны еўра.

Ад 25 лютага колькасць выпадкаў перавысіла 60. Дзясяткі дзяцей пачатковых класаў у Боне знаходзіцца на каранціне, таму што адзін з выхавальнікаў інфіцыраваны.

1 сакавіка ўлады пацвердзілі, што ва ўсіх заходніх землях Германіі ёсць людзі з каранавірусам. 3 сакавіка амаль ва ўсіх землях краіны зафіксавалі інфіцыраваных COVID-19. У Берліне закрылі дзве школы. З'яўляюцца паведамленні, што туалетная папера і тавары працяглага карыстання сталі высока запатрабаванымі.

### Імклівы рост хворых, канцлер на ізаляцыі і падтрымка бізнесу

8 сакавіка колькасць хворых павялічылася да адной тысячы выпадкаў. 10 сакавіка нямецкія ўлады закрываюць оперу, тэатры, прапагандуюць адмяняць масавыя мерапрыемствы.

Канцлер Германіі **Ангела Меркель** заявіла, што каля 60-70% немцаў будуць інфіцыраваныя каранавірусам.

12 сакавіка берлінскія ўніверсітэты адкладаюць пачатак семестра, у краіне хварэюць дзве тысячы чалавек. 14 сакавіка большасць садкоў, школ і ўніверсітэтаў закрылі. Колькасць хворых на каранавірус расце вельмі хутка. 15 сакавіка ў Германіі больш за шэсць тысяч выпадкаў, краіна закрывае межы. 16 сакавіка Ангела Меркель выдае ўказ аб закрыцці цэркваў, крамаў, казіно.

18 сакавіка ў Германіі 12 тысяч выпадкаў. Канцлер Меркель заявіла, што гэта самае большае выпрабаванне для краіны з часоў Другой сусветнай вайны.

22 сакавіка ў краіне зафіксавалі больш за 26 тысяч выпадкаў. Нямецкія ўлады ствараюць праграмы дапамогі бізнесу. Для гэтых праектаў збіраюцца выдаткаваць 150 мільярдаў еўра. Немцы пачынаюць прымаць пацыентаў з Італіі і Францыі ў сваіх бальніцах.

26 сакавіка ў Германіі выявілі больш за 40 тысяч выпадкаў. Памерлі 206 пацыентаў, з іх 49 за адзін дзень.

Па стане на 3 красавіка ў Германіі зафіксавалі больш выпадкаў каранавіруснай інфекцыі, чым у Кітаі за ўвесь час. Колькасць хворых – больш за 87 тысяч, памерлі 1100 чалавек.

6 красавіка колькасць выпадкаў перавысіла 100 тысяч. Ангела Меркель заявіла, што каранавірус закрануў кожнага. Яна таксама патлумачыла, што Германіі рана вяртацца да нармальнага публічнага жыцця.

20 красавіка ў Германіі 145 тысяч хворых на каранавірус. Краіна ўваходзіць у пяцёрку краін з найбольшым распаўсюджваннем каранавіруса.



Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

